


# Вескі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 3(661)
Сакавік 2021 г.


# 25 Сакавіка




## Эра (ня)роўнасьці й абыякавасьці

У нашыя дні шмат гаворыцца пра "роўнасьць", "справядлівасьць", "забясьпечаньне мажлівасьцяў для ўсіх" і розная падобная дэмагогія. Гучаць заклікі да "спыненьня нянавісьці", за "сацыяльную справядлівасьць", ізноў, як у 1968 годзе, чутныя і заклікі "Ўладу – народу". Але гэтая нібыта новая сытуацыя, калі прыгледзецца, ёсьць паўтарэньнем, у чарговай сваёй ітэрацыі, досыць старых і скампрамэтаваных пасылаў. Паўтарэньнем абыякавасьці да чалавечай асобы і яе лёсу.

Што стаіць за стандартнай рэторыкай "сацыяльнай справядлівасьці" і "роўнасьці"? Гэтыя высакародныя, на першы погляд, фразы служаць прыкрыцьцём для таго самага, што рабілі адныя з найбольшых душагубаў у гісторыі, бальшавікі, – прыкрыцьцём барацьбы за ўладу. Успомнім хаця б лёзунгі бальшавікоў: "Мір – народам", "Заводы – рабочым", "Зямля – сялянам". На тыя прыгожыя, простыя і зразумелыя словы купіліся ў свой час мільёны людзей. Але на справе выйшла не зусім прыгожа. Замест міру бальшавікі прынесьлі народам "сусьветную рэвалюцыю", а пазьней – шавіністычныя захопы чужых земляў і пагрозу атамнага канфлікту. Замест заводаў працоўныя атрымалі цяжкую працу за мізэрны заробак і жабрацкі ўмовы жыцьця, доўгія турэмныя тэрміны за 15-хвіліннае спазьненьне на працу. Сяляне пацярпелі хіба найболей, часьцяком атрымаўшы зямлю – па сажані ў магілах на Поўначы, у Котласе і пад Магаданам. На дзесяцігодзьдзі яны зрабіліся бясpraўнымі рабамі савецкай сыстэмы, якая любіла пакрытыкаваць "капіталістычных эксплюататараў" у Вольным Сьвеце.

Такім чынам, бальшавіцкая фразэалёгія аб пабудове ідэальнага грамадзтва пад прыгожымі простымі лёзунгамі абярнулася катастрофай і стратай жыцьця для дзясяткаў мільёнаў людзей у краінах, дзе да ўлады прыйшлі прыўкраснадушныя "пекнадухі"-ўтапісты, што пачалі расстрэламі й зьняволеньнем праставаць чалавецтву дарогу ў лепшае заўтра. Як аказалася, "правільныя" фразы хавалі за сабою банальную спробу захапіць уладу. А яшчэ яны хавалі – абыякавасьць і пагарду да чалавечага жыцьця, да шчасьця, дабрабыту, спадзяваньняў жывых канкрэтных людзей, не папяровых тэарэтычных абстракцыяў.

Спроба ў бальшавікоў тады была пасьпяховай. Ці можам мы думаць, што цяперашняя спроба захопу ўлады новымі ўтапістамі-"пекнадухамі" будзе мець іншыя, чымся ў бальшавікоў, вынікі? Паспрабуем прааналізаваць тое, што сёньня можам даведацца пра левирадыкальныя сілы, іхныя праграмы і пляны.

Асноўнымі носьбітамі леварадыкальнай ідэалёгіі зьяўляюцца зарэгістраваныя арганізацыі кшталту "групаў заціkaўленьня" (advocacy groups – Media Matters, MoveOn), Black Lives Matter, Democratic Socialists of America. Яшчэ – акадэмічныя ўнівэрсітэцкія асяродкі, масавыя мэдыі і дабрачынныя фундацыі кшталту Форда, Ракфэлера, Макартура, Сораса, Гэйтса і сотні іншых. Апошнім часам да гэтай групы грамадзкіх сілаў далучалася кіраўніцтва тэхналягічных кампаніяў, што вызначаюць курс і палітыку ў дачыненьні да сваёй прадукцыі, якую ўжываюць і спажываюць самыя шырокія групы насельніцтва. Усе яны імкнуцца ісьці да ўтапічнай мэты, усе, у той або іншы спосаб, працуюць на скасаваньне грамадзтва і палітычнай сыстэмы, скіраванай на забясьпечаньне роўнасьці магчымасьцяў. На месца яе прасоўваецца палітычная сыстэма, скіраваная на роўнасьць вынікаў. Гэта відавочны і небясьпечны ўтапізм, які ўжо каштаваў чалавецтву мільёнаў ахвяраў, рэкаў крыві, неапісальных пакутаў.

працяг на бачыне 2

# Эра (ня)роўнасьці...

***працяг з бачыны 1***

Ці ёсьць нейкая лучнасьць гэтых структураў у сёнешніх Злучаных Штатах і бальшавіцкіх структураў прамінулых часоў? Асноўная агульная рыса – і тыя, і другія ставяць ідэялёгію па-над усім. Законнасьць, правы чалавека, недатыкальнасьць асобы, чалавечае жыцьцё – другасныя, неістотныя, або нават шкодныя для абедзьвух утапічных сыстэмаў. Асноўная адзінка вымярэньня рэальнасьці, чалавечае жыцьцё, амаль не прымяняльная ні ў адной, ні ў другой сыстэме. Абедзьве сыстэмы маюць шмат прыгожых фразаў пра групы, клясы і катэгорыі, іхныя правы й інтарэсы, але адмысловая, асобна ўзятая чалавечая істота важыць для сучасных утапістаў гэтак жа, як амаль нічога ня важыла яна для бальшавікоў. І калі сучасныя ўтапісты не дайшлі яшчэ да ўзроўню перасьледу і рэпрэсіяў бальшавіцкага ўзору, гэта яшчэ ня значыць, што такога не адбудзецца ў наступныя гады ці дзесяцігодзьдзі. Бо асноўнай каштоўнасьцю абвяшчаецца не чалавечае жыцьцё, не захаваньне закону і парадку, але – “справядлівасьць”, абстрактны пусты тэрмін, у які змагары за “справядлівасьць” самазвана і аднаасобна ўкладаюць свой, пажаданы менавіта ім, сэнс. І пасьля навязваюць гэты сэнс як фінальную ісьціну, што не палягае сумліву і пытаньням.

Такім чынам, пэўная частка грамадства, група не абіраных нікім людзей, сфармулявала шэраг ідэяў і задачаў і стала праз розныя спосабы, а найбольш праз супрацу з большасьцю мэдыяў і тэхналягічных кампаніяў, – ужываць ціск на ўсе астатнія групы грамадства дзеля таго, каб рэшта грамадства прыняла накіданыя ім мэты й ідэалёгію. Нязгодныя перасьледуюцца і караюцца ў пазасудовы спосаб, праз doxing (публікацыю прыватнай інфармацыі), праз звальненьне з працы, а часам проста праз фізічны гвалт. Апанэнты або змушаюцца да згоды, або пазбаўляюцца плятформы для крытыкі сваіх нападнікаў. Відавочна, што гэта толькі пачатак, і з кансалідацыяй рычагоў рэальнай улады ў руках утапістаў мэтады могуць стаць больш жорсткімі і бязьлітаснымі.

І менавіта гэтак, мэтадычна, жорстка і халаднакроўна дзейнічалі бальшавікі ў сваіх розных інкарнацыях – расейскія й кітайскія камуністы, кастраўцы на Кубе, чырвоныя кхмеры і эфіёпскі дэрг. Асноўнай прыкметай, што злучае ўсе гэтыя плыні зь сёнешнім грамадзкім утапізмам на Захадзе, зьяўляецца абыякавасьць і пагарда ў адносінах да чалавечай асобы, да асобнага індывіда. Група (расавая, гендэрная, сэксуальная і г. д.) – калі гэтая група правільная, “прагрэсіўная” – мае для іх правы, мае легітымныя інтарэсы, мае іхную падтрымку – як начыньне ў іхнай палітычнай гульні. Індывід жа для іх занадта “малая рыба”, занадта “дробная манэта”, ня вартая зашмат увагі й павагі. Індывід ня варты выдаткаў, індывід нічога не вырашае, індывіда можна ігнараваць. Менавіта гэтак выказваліся бальшавікі, усяк апяваючы перавагу і каштоўнасьць калектыву, “масы” і падкрэсьліваючы мізэрнасьць і бясьсільнасьць чалавечай адзінкі.




За апошнія гады адбылася кардынальная трансфармацыя канцэпту амэрыканскага індывідуалізму. У вачах утапістаў ён стаў перашкодаю на шляху дасягненьня “сацыяльнай роўнасьці”, прыкметаю нянавіснага ім капіталізму, той эканамічнай сыстэмы, што падняла мільёны з галечы, што не патрабуе падтрымкі й апекі дзяржавы. Менавіта дзяржаўная апека і падтрымка ёсьць асноўны, так мілы сэрцу ўтапістаў, інструмэнт дасягненьня “роўнасьці” і “справядлівасьці”. Шмат хто памятае, як гэты інструмант зайграў у Саветах, у Кітаі, на Кубе і ў Кампучыі, і што ён вырабляе ў Паўночнай Карэі і ў нашай Беларусі. Чаму малашаноўныя ўтапісты ў Вольным (пакуль яшчэ) Сьвеце лічаць, што вынікі ўжываньня гэтага інструмэнту на Захадзе будуць іншыя, чым на Ўсходзе? Патлумачыць такую аблуднасьць думак можна толькі абыякавасьцю да чалавечай асобы, да яе лёсу.

Толькі гэткай абыякавасьцю можа тлумачыцца тое, што воля паловы насельніцтва Злучаных Штатаў, абраўшых свайго прадстаўніка на пасаду кіраўніка дзяржавы, была ад пачатку патаптаная і праігнараваная. Тлумы прагрэсістаў-утапістаў у розных дзяржаўных структурах павялі вайну супраць гэтага прадстаўніка. Людзі, што абралі яго, пагардліва называліся “рэднікамі”, “кошыкам вартых пагарды асобаў”, “невукамі”. Неўзабаве да эпітэтаў былі далучаныя такія словы як “расісты”, “белыя супрэматысты”, “фанатыкі”, “цемрашалы”. Канстытуцыя ЗША, дакумэнт на якім тыя “цемрашалы” грунтуюць свой сьветапогляд, падступна выстаўляецца састарэлым дакумэнтам, паперкай, створанай сотні год таму купкай прывеліяваных багатыроў і рабаўласьнікаў.

Абыякавасьць – ключавое слова тут. Натуральна, калі адбываецца такая дэгуманізацыя асобаў, наступны крок – абгрунтаваньне таго, што зь імі можна не лічыцца. Можна ня ўлічваць іхныя інтарэсы, іхныя пачуцьці, іхныя спадзяваньні. І можна – ня ўлічваць іхныя галасы, іхныя выбарчыя бюлетэні!

Бог утапістаў дзеліць няроўна – ёсьць галасы “правільныя”, і ёсьць “няправільныя”. Правільныя галасы ў выглядзе сфальшаваных бюлетэняў можна фурамі падвозіць уначы да выбарчых участкаў, укідаць цэнтнэрамі падалей ад вачэй назіральнікаў і пасьля спрабаваць выдаць гэта за волю народу. Тут нехта можа сказаць, што такія выказваньні – гэта тэорыя змовы, прыдуманыя “адмазкі” пасьля паразы кансэрватараў, апошнія выбрыкі прэзыдэнта, што не жадае разьвітвацца з уладай. Але на гэта можна запярэчыць наступнае – калі б цяперашнія эліты абедзьвух партыяў, дзяржаўны істэблішмэнт на ўсіх узроўнях, ад павету (county) да штату і да фэдэральнага ўзроўню былі б зацікаўленыя ў пераконваньні й перацягненьні праз доказы на свой бок усіх тых індывідаў, што выказалі засьцярогу і непакой адносна магчымых фальсыфікацыяў падчас выбараў – яны б паставіліся да ўсёй сытуацыі зусім інакш, чымся паставіліся цяперашнія адказныя чыноўнікі, ад старшыняў выбарчых камісіяў і да судзьдзяў Вярхоўнага Суду ЗША. Бо чыноўнікі праявілі тую, заўсёды самую характэрную для іх, чыноўнікаў, рысу – абыякавасьць.

Кожны асобны выпадак мусіў бы быць разгледжаны і правераны, па кожным асобным выпадку мусіла быць напісаная і пратлумачаная апінія, складзенае заключэньне, каб ліквідаваць нават самы мінімальны сумліў у карэктнасьці й справядлівасьці выбарчай сыстэмы, у належным трактаваньні галасоў, якія аддалі за свайго кандыдата ў прэзыдэнты грамадзяне Злучаных Штатаў.

Але не. Законныя сумнівы й засьцярогі выбарнікаў падаюцца як нейкія вар'яцкія або зламысныя маніпуляцыі, як крокі па захаваньні ўлады нянавіснага “аранжавага дыктатара”. Судовыя

***заканчэньне на бачыне 4***

# Мікола Шчаглоў-Кулiковіч - кампазытар, дырыжор, музыколяг, культурніцкі і грамадзкі дзеяч

Нарадзіўся Мікола Шчаглоў-Куліковіч у 1896 годзе на беларускім этнічным абшары Смаленшчыны. Па бацьку паходзіў з данскіх казакоў, па маці – зь беларусаў Смаленшчыны, але рана стаў сіратой. Ад малых год сутыкаўся з праваслаўнай царкоўнай музыкай, сьпяваў у хоры пры манастыры, дзе выявіліся музычныя здольнасьці юнака. Скончыў Маскоўскую сынадальную вучэльню царкоўных сьпеваў. На пастаноўку і развіцьцё ягонага голасу і, наагул, музычнага таленту зрабіў вялікі ўплыў дырэктар вучэльні, вядомы рэфарматар расейскай царкоўнай музыкі Аляксандар Кастальскі.

Як сьпявак-альт Мікола Шчаглоў-Куліковіч выступаў у эўрапейскіх турнэ. Ён вучыўся ў Маскоўскай кансэрваторыі да 1925 году, потым, у 1930-я гады займаўся зьбіраньнем і вывучэньнем народных сьпеваў і музыкі Смаленшчыны, а затым нейкі час жыў ва Ўкраіне. У 1936 годзе Мікола Шчаглоў-Куліковіч пераехаў у Менск. Ён працаваў музычным рэдактарам на Беларускім радыё і працягваў цікавіцца беларускім сьпеўным фальклёрам. З 1937 году Мікола Шчаглоў-Куліковіч працаваў дырыжорам сымфанічнага аркестру Беларускага Радыёкамітэту ў Менску. М. Шчаглоў-Куліковіч стаў адным з арганізатараў Тэатру Опэры й Балету Беларусі, і быў дырыжорам сымфанічнага аркестру гэтага тэатру. У якасьці музыказнаўцы па пытаньнях беларускай сьпеўнай і музычнай культуры Шчаглоў-Куліковіч публікаваў артыкулы ў пэрыядычным друку. У 1939 годе напісаў опэру “Кацярына”.

Як глыбака веруючы чалавек, што заўсёды цікавіўся царкоўнай музыкай, ён заўсёды быў супраць перасьледу бальшавікамі царквы ў Саветах, але сапраўдную дзейнасьць па вывучэньні й разьвіцьці царкоўнай музыкі ён змог працягваць, парадаксальна, толькі з прыходам немцаў. У часы Другой сусьветнай вайны Мікола Шчаглоў-Куліковіч браў актыўны ўдзел у аднаўленьні рэлігійнай і нацыянальнай працы ў Беларусі. У 1941-1942 гадох ён прадоўжыў зьбіраньне беларускага песеннага і музычнага фальклёру. Па выніках гэтай працы былі у Менску выдадзены “Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песьняў” (1943). Мікола Шчаглоў-Куліковіч супрацоўнічаў у беларускім пэрыядычным друку, у тым ліку ў такіх



выданьнях як “Беларуская газэта” і “Новы шлях”, у якіх ён апублікаваў шэраг артыкулаў пра беларускую музычную культуру. Затым Шчаглоў-Куліковіч ачоліў музычны аддзел Беларускай Культурнай Рады і Беларускага Культурніцкага Згуртаваньня.

Пасьля Ўсебеларускага царкоўнага сабору ў Менску і аднаўленьня ў 1942 годзе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы М. Шчаглоў-Куліковіч займаўся рэфармаваньнем беларускай царкоўнай музыкі.

У тым жа годзе ён падрыхтаваў тэарэтычнае дасьледаваньне “Беларуская песьня”, што засталося ў рукапісе. Мікола Шчаглоў-Куліковіч браў удзел у працы Другога Ўсебеларускага Кангрэса ў Менску ў чэрвені 1944 году. У часе вайны ён стварыў опэры “Лясное возера” (1942) і “Ўсяслаў Чарадзей” (1944) на лібрэта беларускай паэткі Натальлі Арсеньневай, а таксама апэрэту “Ў вырай”. Шчаглоў-Куліковіч кіраваў аркестрам Менскага драматычнага тэатру і напісаў музыку да спэктакля “Затонуты звон” паводле п’есы Г. Гаўптмана. З ягоным удзелам рыхтавалася пастаноўка п’есы “Кастусь Каліноўскі” Э. Міровіча, якую забараніла нямецкая цэнзура.

Па словах сп. Вітаўта Кіпеля, Мікола Шчаглоў-Куліковіч вельмі шмат зрабіў для папулярызацыі беларускага сьпеўнага рэпэртуару, і ён амаль штотыдня ствараў мэлёдыю новай песьні для беларускага нацыянальнага актыву, у тым ліку для Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ).

У 1944 годзе Шчаглоў-Куліковіч выехаў на Захад, і спачатку жыў у Нямеччыне, дзе па вайне шмат акампаніяваў і пісаў музыку ў ДП-лягерох, кіраваў канцэртнай групай і ўзначальваў Беларускі тэатар эстрады. Ён спрычыніўся да аднаўленьня рэлігійнага жыцьця сярод беларусаў у Нямеччыне, падтрымаў кампазытара Міколу Равенскага ў справе запачаткаваньня праваслаўных набажэнстваў у Рэгенсбургу і Остэргофэне, і будовы беларускай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу.

У 1950 годзе М. Шчаглоў-Куліковіч пераехаў у ЗША, актыўна далучыўся да нацыянальнай культурніцкай дзейнасьці і амаль адразу заснаваў Беларускі хор у Нью-Ёрку, а затым, пераехаўшы ў Кліўлэнд, стаў кіраваць тамтэйшым Беларускім хорам. Затым Шчаглоў-Куліковіч перабраўся ў Чыкага, дзе заснаваў Беларускі лірычна-народны ансамбаль. Ён выступаў у тэатры музычнай мініятуры, і цягам 12 гадоў кіраваў царкоўным хорам у беларускай грэка-каталіцкай царкве Хрыста-Збаўцы, браў з гэтым хорам удзел у экумэнічных набажэнствах. Мікола Шчаглоў-Куліковіч працаваў над кантычкамі й музыкай да літургічных тэкстаў.

Ён публікаваў артыкулы па музычнай тэматыцы ў беларускіх пэрыядычных выданьнях на эміграцыі. Акрамя твораў, згаданых вышэй, Шчаглоў-Куліковіч зьяўляецца аўтарам кантаты, сымфоніяў і сымфанічных сюітаў, песень і рамансаў на словы Янкі Купалы, М. Багдановіча, У. Дубоўкі, У. Жылкі, Н. Арсеньневай (“У гушчарах”). Ён пісаў музыку да драматычных спэктакляў. Шчаглоў-Куліковіч, як дасьледчык гісторыі беларускага музычнага мастацтва, зьяўляецца ўкладальнікам шэрагу зборнікаў – “Беларускія песенныя зборнікі» (1954, 1955, 1960), “Калядоўшчыкі” (1961), “Родныя матывы” (1967). Ягонаму аўтарству належыць таксама шэраг культурна-гістарычных працаў, як “Беларуская музыка” (1953), “Беларуская савецкая опэра” (1957).

Памёр Мікола Шчаглоў-Куліковіч у 1969 годзе ў Чыкага. Пасьля сьмерці кампазытатара ягоная жонка, Надзея Куліковіч-Градэ, перадала ягоны архіў у Беларускую бібліятэку і музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, дзе ён захоўваецца дасюль, чакаючы на дасьледчыкаў і выдаўцоў.

**Віталь ЗАЙКА**

# Эра (ня)роўнасьці...

***заканчэньне з бачыны 2***

зыскі ў справе парушэньняў падчас выбараў адкідаюцца судзьдзямі, што заміж разгляду прыведзеных у судовых позвах фактаў і сьведчаньняў ад соцень людзей называюць зыскі “фрывольнымі”, “недатычнымі да справы выбараў”, “палітычна матываванымі”. Генэральны пракурор ЗША заяўляе што ягонае ведамства разгледзела сьведчаньні й доказы й уважае што парушэньняў не было – калі асобы, што заявілі аб парушэньнях, адзначаюць што ніхто з прадстаўнікоў пракурорскіх наглядчых ворганаў не камунікаваў зь імі, не патрабаваў для разляду дакумэнтацыю і сьведчаньні. У выніку кожны чалавек, што не атрымаў адказы на свае законныя, як зарэгістраванага грамадзяніна-выбарца, пытаньні ў справе заўважаных парушэньняў, мае поўнае права лічыць свае інтарэсы праігнараванымі, а свае правы – парушанымі. І ніхто ня можа быць пэўны, што ягоны голас быў належным чынам зарэгістраваны і ўлічаны. Абыякавасьць да грамадзяніна-выбарца ёсьць новай, нечуванай дасюль, рысай нашага часу.

У выніку адбываецца тое, пра што казаў некалі архітыран Сталін: “Важна ня хто і як галасуе, але хто і як падлічвае”. І вось менавіта гэта адбываецца ў флягмане Вольнага Сьвету, у “краіне свабодных і ў доме адважных”, кажучы словамі амэрыканскага гімну. Сумна і горка ўсьведамляць такое.

Абыякавасьць да грамадзянаў-выбарцаў – гэта толькі адна з праяваў агульнай абыякавасьці “прагрэсіўных” утапічных колаў, структураў да чалавечай асобы. У колішнія часы прагрэсіўны філязоф Вальтэр пісаў пра сваю гатовасьць нават памерці за тое, каб апанэнт меў права і мажлівасьць выказваць свае адрозныя погляды. У нашыя часы прагрэсісты гатовыя ў любы, самы падступны і гнюсны спосаб, скасаваць тое права і мажлівасьць. Усе “прагрэсіўныя” масавыя сродкі кпяць з “рэднікаў”, якія занепакоеныя лёсам сваіх, аддадзеных за прэзыдэнта Трампа, галасоў. У кожным радку і фразе чытаецца непрыхаваная пагарда да паловы насельніцтва ЗША, абыякавасьць да іхных інарэсаў, пачуцьцяў, спадзяваньняў.

І вось ужо палітыкі-рэспубліканцы, паліткамэнтатары, тэлеканал Fox, часапісы й нешматлікія кансэрватыўныя газэты займаюць “рэалістычную” пазыцыю ды заяўляюць, што ніякіх парушэньняў на прэзыдэнцкіх выбарах у ЗША ў 2020 годзе не было. Маўляў, нам жа тут жыць і далей, а сьцяны ілбом не прабьеш. Ці ня так думае шмат хто, хоць і з іншай, але падобнай, нагоды, у сучаснай Беларусі? Сумна і горка чуць і бачыць, што абыякавасьць перамагае. Мы памятаем, чаго каштавала такая абыякавасьць мільёнам гугенотаў, армянаў, гэбраяў, апанэнтаў камунізму – людзям, што былі іншадумцамі й іншаверцамі.

Ці не ўваходзім мы ізноў у тое самае крывавае зачараванае кола, ці не наступае новая эра абыякавасьці, калі кожны будзе дбаць толькі пра сваю ўласную шкуру, свой трыбух, сваё ўласнае выжываньне? Хацелася б верыць, што гэта толькі сыйшоўшае на нас ачмурэньне, часовая абэрацыя, чарговае выпрабаваньне, якое будзе пройдзена годна і пасьпяхова, як Амэрыцы ўдавалася праходзіць шмат разоў дасюль.

***Віталь ЗАЙКА***



**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**В. Балашчэнка ...........60**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”** ***Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна і на штомесячных сходах арганізацыі.**

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**В. Балашчэнка ............30**
**В. Біліда ....................30**
**Л. і П. Рыжыя .............30**
**С. Стрэльчанка ............30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***